


# Наша слова

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*





Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 36 (722) 21 ВЕРАСНЯ 2005 г.

## Беларускай Асацыяцыі Журналістаў - 10 гадоў

*14 верасня 2005 г.№ ___*

*Спн. Жанне Ліцьвінай*
*Старшыні Беларускай асацыяцыі журналістаў*

*220000, г. Менск,*
*пл. Свабоды, 17-304*

### *ПАВАЖАНАЯ СПАДАРЫНЯ ЖАННА!*

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" віншуе Вас і ў Вашай асобе ўсіх сяброў БАЖа з першым круглым юбілеем – 10-мі ўгодкамі ад часу заснавання Асацыяцыі – і жадае плённай журналісцкай дзейнасці на шляху да дэмакратычнай Беларусі. Для кожнага слова вольнае, слова праўды з-пад пяра незалежнай прэсы – як глыток паветра, без якога немагчымае нашае жыццё.

Асаблівая ўдзячнасць беларускамоўным журналістам, якія за сваю прынцыповую грамадзянскую пазіцыю, мужнасць паўсюль карыстацца роднаю моваю, церпяць праслед з боку уладных структураў, аднак застаюцца вернымі беларускай ідэі, перакананымі барацьбітамі за дэмакратычнае грамадства.

Хай беражэ вас Бог у гэты складаны для нашай гісторыі час.

Жыве Беларусь!

З павагай

***Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"*** ***Алег Трусаў.***

## Сустрэча старшыні ТБМ А. Трусава з дыпламатамі краін Еўразвязу

13 верасня старшыня ТБМ быў запрошаны на сустрэчу з амбасадарамі і супрацоўнікамі амбасад краін Еўразвязу ў Беларусі. Прысутнічалі амбасадары Францыі, Вялікабрытаніі, Германіі, Літвы, Славакіі, Латвіі, Швецыі, а таксама прадстаўнікі амбасад Польшчы, Румыніі і Чэхіі. Гаворка ішла пра "Нямецкую хвалю" і будучыя перадачы на Беларусь на рускай мове. Французы і брытанцы падтрымалі нямецкую ідэю навучаць беларусаў дэмакратыі на мове іншай краіны і прапанавалі Таварыству спыніць хвалю пратэстаў беларусаў супраць чарговай хвалі русіфікацыі ў імя будучай дэмакратыі на Беларусі.

Старшыня ТБМ запярэчыў ім і давёў думку, што беларусаў трэба паважаць як еўрапейскі народ, які зрабіў беларускую мову адзінай дзяржаўнай моваі краіны. Вярхоўны Савет 12 склікання дэмакратычным шляхам (2/3 галасоў) прыняў адпаведны запіс у Канстытуцыі Беларусі 1994 года. Наступныя змены Канстытуцыі ў 1996 годзе зроблены гвалтоўна і таму не былі падтрыманыя Еўразвязам. І калі краіны Еўразвязу прызнаюць толькі Канстытуцыю 1994 года, яны мусяць шырока выкарыстоўваць беларускую мову ў сваіх будучых радыё- і тэлеперадачах на Беларусь.

Нас падтрымалі польскія і літоўскія дэпутаты Еўразвязу, якія запярэчылі будучай русіфікацыі Беларусі за грошы Еўракамісіі. Алег Трусаў выказаў шчырую падзяку дыпламатам Польшчы і Літвы за падтрымку пазіцыі ТБМ наконт вяшчання радыёперадач "Нямецкай Хвалі" на дзяржаўнай беларускай мове.

Таму нам трэба ўзмацніць ціск на "Нямецкую Хвалю" і Еўрапейскую Камісію, каб еўрапейцы канчаткова зразумелі сваю стратэгічную памылку ў адносінах выбару мовы вяшчання на Беларусь.

***Наш кар.***

## МЕНГАРВЫКАНКАМ САНКЦЫЯНАВАЎ ПРАВЯДЗЕННЕ 1—2 КАСТРЫЧНІКА Ў МЕНСКУ НАЦЫЯНАЛЬНАГА КАНГРЭСУ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ СІЛАЎ

Улады санкцыянавалі правядзенне 1—2 кастрычніка ў Менску Нацыянальнага кангрэсу дэмакратычных сілаў (НКДС).

Як паведаміў БелаПАН кіраўнік аргкамітэту па падрыхтоўцы НКДС Аляксандр Бухвостаў, пісьмовы дазвол за подпісам намесніка старшыні Менгарвыканкама Міхаіла Пятрушына атрыманы 16 верасня. У якасці месца правядзення кангрэсу названы Палац культуры Менскага аўтамабільнага завода. Колькасць удзельнікаў НКДС у лісце гарвыканкаму не вызначана – гэта, паводле слоў Бухвостава, прэрагатыва арганізатараў.

Нагадаем, што папярэдняя дамоўленасць з кіраўніцтвам ПК МАЗ аб арэндзе будынка на 1—2 кастрычніка была дасягнута 13 верасня. Чакаецца, што пагадненне наконт гэтага будзе падпісана на працягу найбліжэйшага тыдня. Двухдзённая арэнда ПК абыйдзецца прыкладна ў восем мільёнаў рублёў.

***Ірына ЛЕЎШЫНА, БелаПАН.***

## Замак Гедыміна



17 - 18 верасня ў Лідзе прайшоў Міжнародны рыцарскі турнір "Замак Гедыміна". Турнір ладзілі Рэспубліканскае моладзевае аб'яднанне "Рыцары Вялікага Княства" і Лідскі райвыканкам.

У ГА "Рыцары Вялікага Княства" ўваходзяць клубы: "Княжы Гуф" (Менск), "Дайнава" (Ліда), "Берасцейская Харугва" (Берасце), "Жалезны Воўк" (Полацк), "Золак" (Жодзіна). "Палаэя" (Менск), "Заслаўская Харугва" (Заслаўе), "Касцеша" (Кобрын), "Вольны Горад" (Берасце), "Быліна" (Менск), "Рыцарская Дзіда" (Радужны), "Продыюс" (Менск), "Менская Харугва" (Менск), "Газлава" (Бабруйск). Усяго ж у турніры бралі ўдзел 48 клубаў (за 460 удзельнікаў), у тым ліку клуб "Залатая шпора" (Менск), які забяспечыў конную частку турніру.

Разыгрываліся: конны турнір, пешы турнір, турнір лучнікаў, групавы турнір (бугурт) і штурм замка. Упершыню ў новай гісторыі Беларусі турнір праходзіў ўнутры сярэднявечнага замка, ды яшчэ самага старажытнага ў краіне. Гарадскія ўлады правялі грандыёзны аб'ём работы, затрацілі каля 24 млн. руб. , але зробленае застаецца, а грошы, сабраныя за білеты (каля 20 млн.), пойдуць на рэстаўрацыю замка.

На думку многіх рыцараў Лідскі замак найбольш аптымальнае месца для правядзення такіх мерапрыемстваў. І гэтая думка супадае з пазіцыяй лідскага кіраўніцтва зрабіць гэты турнір штогадовым.

Турнір праходзіў у замку, а вакол замка віраваў кірмаш, быў разгорнуты "Горад майстроў", праводзіліся выставы конкурсы, прайшлі канцэрты сярэднявечнай музыкі. Горад Ліда на два дні вярнуўся на гадоў 500-600 назад, вярнуўся, каб успомніць, кім мы былі і чым мы былі, каб задумацца, кім мы сталі, і як нам жыць далей.

***Яраслаў Грынкевіч.***

*(Працяг тэмы на ст. 6-7).*





# Замак



"Пагоня" над Лідскім замкам самая першая выява гістарычнага герба Беларусі ў новым часе, была ўстаноўлена яшчэ пры савецкай уладзе.





Рыцар Паўночнага храма большасць сваіх супраціўнікаў паваліў вытамі сякеры са спіны.



Першы этап турніру - конны. Рыцары рыхтуюцца да турніру. У цэнтры брандэнбургскі рыцар.



Французскі рыцар не замінае храмаўніку расправіцца з рускім віцязем.



Рыцар разаграе каня перад турнірам.



Прыстасаванні для аблогі.





# Гедыміна




Калюмны Гедыміна - эмблема турніру.



Разыгрываецца штурм Лідскага замка крыжакамі ў 1394 годзе. На сценах ліцьвінскія воі ("Княжы гуф", "Дайнава" і інш.).



Марны штурм замка. Ліда ўзятая не была ні ў 1394-м, ні ў 2005-м.



Крыжакі коцяць таран да варотаў замка.



Вылазка залогі. У цэнтры бой вядзе камандзір "Дайнавы" Юрась Мандрык.



Штурм замка.



Старшыня Лідскага райвыканкаму Андрэй Худык заверыў рыцараў, што на наступны год турнір будзе арганізаваны яшчэ лепш .

